Przesyłka pocztowa opłacona ryczałtem
ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЕРШЫ

АСОБНЫ НУМАР 30 ГРОШ.




Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 4
«МАЛАНКА»

№ 17
25 СЬНЕЖНЯ
1926 г.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгоду 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „
За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.

# Сьвяточныя падаркі беларусам.




**«Dziadek» Польскі**: Хай ведаюць беларусы, што я і пра іх дбаю. Вось мая для іх сьвяточная ёлка з падаркамі. Хай пацяшаюцца!




# Калядная размова.

ЗВАНЫ:

Апанас! Апанас!
Каляда прышла да нас.
Дзілім-бом! Дзілім-бом!
Аб падлогу бі йдзі лбом.
Бом! Бом!

СЕЛЯНІН:

Селянін я бедны,
Дык мой лоб ня „медны“,
. . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .
Я ім аб падлогу
Ня буду біць —
Баліць

ЗВАНЫ:

Ох, ты лодар! ох, гультай!
Сала-сала-сала дай!
Кажу табе не на сьмех,
Бо вялікі будзе грэх.
Дай! Дай!

СЕЛЯНІН:

А ў мяне дачушка
Надта ўжо пястушка —
Абы толькі ўстала,
Дык хутчэй за сала,
Ды люблю і сам —
Ня дам.

ЗВАНЫ:

Ну, цяпер табе капут —
На тым сьвеце страшны суд,
Пасьля ў пекле аж на дне
Папячэшся на ражне.
Дасі, ці не?

СЕЛЯНІН:

Вам я не паверу —
Брэшаце ня ўмеру;
Не баюся суду
І даваць ня буду.

Ужо ня тыя часы,
Што еў поп кілбасы,
Пачуў і я смак —
Пабудзе й так.

ЗВАНЫ:

Каляда прышла да нас,
Ды бяз сала, бяз кілбас,
Будзе-будзе-будзе так,
Бо пачулі людзі смак.
Так! Так!

**Крапіва.**



Крапіва.

## Муза *) падвяла.

Рэдакцыя „Маланкі“ дзеля перасьцярогі нашых домарошчаных модэрністых і футурыстых зьмяшчае гэты верш.

---

Па шумнай места вуліцы
Пясьняр ідзе...
То к вуглу ён прытуліцца
І стане дзе,
То крокамі вось шпаркімі
Бяжыць - ляціць,
То сочыць ён за хмаркамі —
Ўгару глядзіць.
Нахіл імажыніста меў
Пясьняр мастак
І словамі квяцістымі
Складаў верш так:
„Капеух за капеухам па сіняй
чарэні,
Як зайцы,
І залатым зубам дзень
Выскаляецца!!“
Яшчэ хацеў так добра ён
Зрабіць зварот,
А нехта тут аглобляю
Ў пясьнярскі рот.
І зубы разьбягаюцца,
Ях дзікія,
І дзень не выскаляецца,
А хныкае.
Пясьняр-жа з кіем гоніцца
За музаю:
„Дальбог, крычыць, разбойніца,
Патузаю!
Ня лезь ка мне, шалёная,
сьляпіцаю,
Бо завяду ўсё роўна я
Ў паліцыю“

## У школе.

Ў школе поп гаворыць дзецям:
„Бог вялікі ўсё на сьвеце, —
„Для людзей даў на пацеху
„Зьвера ўсякага, расьліны,
„Неба й зоры, зямлю, воды,—
„І за гэта мы павінны
„Богу дзякаваць заўсёды“.

Кончыў поп. Тагды Іванка
Стаў з-за лаўкі і пытае:
„Чаму-ж гэта мая мамка
Ўсё на Бога наракае?

Што ў турме мой тата нейкай...
Ўсё ня ўцямлю, дык спытаю:
Нашто яе для чалавека
Бог стварыў, я, вось ня знаю.

**Улад. Іпіцкі.**

---

*) Муза — багіня мастацтва ў старажытных грэкаў, якая, па іх думцы, давала натхненьне поэтам.

## Маюць „вольнасьць“...



**Доктар** да хворага. Што баліць?
**Селянін**: Жывот, паночку.
**Доктар**: Дык чаго-ж вы, наракаеце, што вам тут кепска? Бачыце, ў Польшчы нават просты мужык вольнасьць мае.

## Ласка з неба...




— Быў я папом праваслаўным, дык чуць ногі з голаду цягаў,— нічога *прихожане* не давалі, а прыняў унію, дык і ласку з неба ўбачыў.

## Віншаваньне.

Ў пана сын нек нарадзіўся,
Доўга ён чакаў насьледзтва,
Сын — ну бацька, хот ты бісся,
Аж дзівілася суседзтва.

На радзіны, як пан справіў,
З двору парабкоў паклікаў,
Хоць у кухню іх заправіў,
Але гонар: пан вялікі!

Во, суседзяў угасьціўшы,
Ўспомніў кухню пан нарэшце,
Сам быў добра ўжо падпіўшы,
Парабком даў выпіць, зьесьці.

Кажа пан: „Былі-б упамкі
Панічочка нарадзіны,
Дам я гары па паўшклянкі
Для працоўнае „скаціны!“

З парабкоў тагды Гаўрыла
Кажа пану віншаваньне,
(Знаў звычаі ён такія,
Быў мастак на прывітаньні):

„Мы — гарбом сваім працуем,
„Галавой—пан вечна круціць.
„І гарбом і галавою
„Працаваць усім здакучыць.

„Панскі сын каб лепшай долі,
„Шчасьця лепшага дажджаўся·
„Замест круціць галавою, —
„Без яе, каб ён застаўся!“

**Улад—Іпіцкі.**

# Грамадой на „Грамаду“...



І куды і чаго ўсё ідуць і ідуць,
А мо‘ зноў на вайну сабіраецца?
Яны ў вёску ідуць, што ляжыць за за гарой,
Там, дзе зьезд „Грамады“ адбываецца.
А на што столькі іх на канях, пехатой?
Хто-ж на зьезьдзе, на тым, сабіраецца?
То—працоўны там люд ад сахі, тапара
Ўсё аб долі сваёй нараджаецца.

### ПРАЎДА.

— Татка, а татка, раскажы мне байку.

— Ці-ж ня брыдка табе, такому вялікаму хлапцу, слухаць байкі? Дурны ты!

— Гэта-ж ня байка, а праўда.

### У МЕСЬЦЕ.

— Наша котачка прывяла шмат маладых кацянятаў, што з імі цяпер рабіць?

— Адчыні рэстарацыю і падавай штодзенна зайцавую пячэню.

### ЗАБАБОНЫ.

— Кажуць суседзі, што пярун толькі там б‘е, дзе сядзяць схаваныя чэрці.

— Э, гэта забабоны! Ці-ж наш поп мае чарцей, што пярун у яго хату стрэліў? *К.*

### Быў пад судом.

Судзьдзя пытаецца ў сьведкі:
— Ці пан быў, пад судом?
— Але, быў,—адказвае сьведка, быў раз у Вільні, а йшоў дождж, дык я схаваўся пад суд і дзьве гадзіны прастаяў.

## Зашмат хлябнуў.

(*Праўдзівае здарэньне*).

Войт наш Трабскі распусьціўся
Ну проста бяз меры:
Раз у Фрумкі так напіўся, —
Чуць вылез за дзьверы.
А ў дарозе дык валяўся
Як той акрабаты, —
На ўсе стораны хіляўся,
Ідучы да хаты.
Ён даляраў многа меў
З сабой у калошы, —
*Чатырыста пяцьдзесят*
То ня жарт, а грошы!
Але ліха надало
Войту — дабрадзею, —
Цапу-лапу па кішэнях
Дзесьці іх пасеяў.
Ах, мой Божа! ах, мой мілы!
Якое-ж то гора,
Войт наш плача, войт наш енча
І сьлёзна гавора:
Было грошай у мяне,
Быццам у банкіра,
Каб на злоты разьмяняць —
Тысячы чатыры!
Вось нашчасьце тыя грошы
Знайшлі добры людзі,
Ўзялі войту аддалі, —
Няхай добра будзе.

Цяпер, войце, памятай
Не смакчы сівуху,
Не валяйся па балоце
Ты п‘яны бяз духу.
Лепш любі працоўны люд,
З ім жыві у згодзе,
Тады пашану будзеш мець
У сваім народзе.

**А. Нехта-Нейкі.**

# Хаўтуры.

Здараюцца-ж часамі людзям сны. Ды яшчэ якія!

Гэта нішто, калі прысьніш у нашыя дні, быццам высока-высока над грэшнай зямлёю ляціш на аэроплянe.

Аэроплян — машына цяпер даволі модная, асабліва ў нас, дзе людзі настолькі рупяцца аб культуры, што як зімой так летам рапаруюць старую Вільню на ўсіх яе вуліцах, капаючы то ўдоўж то ўпоперак глыбачэзныя равы, праводзячы пад зямлёю розныя драты і трубы.

Дый аэроплян беларусу ніколі тут не зашкодзіў-бы. Бо, калі здарылася-б быць запрошаным у сваю беларускую сталіцу, ў Менск, на якую-нібудзь інбелкультаўскую конфэрэнцыю аб азбуцы, дык і пашпарту заграпічнага ня трэба: сеў на самалёт —

Дррррр...

І паляцеў сабе безграпічным паветрам бяз пашпарту, якога ўсё роўна не даюць.

Але што я пляту недарэчы пра аэроплян?

Дзе яго ўзяць?

Хіба толькі прысьніць можна...

Пісаць-жа я меў пра хаўтуры.

Дык вось пра хаўтуры і будзем гаварыць.

Ня ведаю, ці мне здалося, ці заснуў я, але памятаю толькі, што бачыў:

Свае ўласныя хаўтуры.

Лазіў я, здаецца, лазіў па нашай Вільні, ледзь не ўва ўсіх беларускіх рэдакцыях пабываў і ўсюды меў адныя няпрыемнасьці. У аднэй глядзелі проста, як на скончанага чалавека і, махаючы галавою, заўважвалі:

— Пастарэў Звончык!

У другой рэдакцыі не разумелі:

— Чаму гэта ён ня мае партыйнага білету?

У трэцяй проста й гаварыць не хацелі, прыпісваючы мне ўсе сатыры, якія зьяўляліся ў беларускіх газэтах ці журнале, ня ведаючы таго, што я даўно ўжо маю шмат конкурэнтаў. І нават цешуся з гэтага:

— Расьце братва!

У чацьвёртай ні то рэдакцыі, ні то прытулішчы нейкага няшчаснага нашага збанкрутаваўшага дзеяча, клалі пра мяне зусім ужо дзіўную рэзалюцыю:

— Мяняе псэўдонімы ды піша, дзе папала, за „приличное вознаграждение“...

Хоць, праўду кажучы, ня веру неяк я, каб гэткага вось *вознаграждения* маглі дачакацца ў нас нават праўнукі сучаснага пакаленьня.

Ну, а ў беларусаў ведама, як дапячэ каму жыцьцё, дык ідзе ён, часам топіцца, б‘е кіем па галаве паліцыянта, рэжа тупым нажом па горле конфідэнта, а то й сабе пятлю на шыю накідае.

# Мая хата з краю...




**Селянін да паліцыянта**: Чаму вы людзей не бароніце? — Бачыце нейкія жулікі на нас напалі:

**Паліцыянт**: Гэта ня жулікі, а конфідэнты і асаднікі, а бараніць вас — „грамадзістаў“ мне ня сказана.

А я дык і тут не такі, як людзі. Нашто мне чапаць паліцыянтаў ды конфідэнтаў?

Іх у нас гэтулькі, што ўсё роўна рады ўсім не дасі.

І здаецца вось, што я плюнуў на ўсё і...

Памёр.

Але памёр так, што ляжу дый чую, што дзеецца вакол мяне. Нават і ў гэтым незайздросным палажэньні я застаўся беларусам:

Ляжу ў труне і чую, як навокала шахаціць —

Беларускі рух.

— Аб'яднаньне! — закрычэў нехта голасна ў „Беларускай Хатцы“.

— Вечны спакой... ціха шапнулі ў „Выдавецкім Таварыстве“.

— Трэба зрабіць падпісны ліст на пахаваньне, — зарупіліся ў цэнтральным камітэце «Грамады».

— Бедны быў чалавек, — сказаў нехта ні то ў „Інстытуце Гаспадаркі і Культуры“, ні то ў кватэры «Сялянскага Саюзу».

— Грэшнік быў, — сказаў адзін з маланечкіх хадэцкіх працаўнікоў, — bezwyznaniowcem быў нябожчык і на'т невядома, ці хто яго хрысьціў.

— *Ну, как-же*, — пачуўся дуэт аж на Фабрычнай вуліцы, — *православный батюшка его крестил. Понимаете?*

— Вечная памяць, — уздыхнуў адзін сэнатар.

А пасол адзін дадаў:

— *Я горжусь, что покойный владел русским языком.*

Другі пасол, беспартыйны і дзікі, напіўся, як і заўсёды.

— Вось гэта якраз і бяда для яго, — даляцела няма ведама скуль, — бо аж да сьмерці ня мог вызваліцца ад духу расейскае мовы...

— Жулік! — тоненька запішчэў недарэчы быўшы беларускі друкар, — грошы мне скруціў, за друкі ня ўсё заплаціў.

— Радзеюць рады старое гвардыі! — са шчырым жалем сказаў эс-эр, ледзь-ледзь стрымліваючы сьлёзы ў грудзёх.

У «Маланцы» тымчасам маўчалі, бо ўночы там агні не гараць, у позьні час туды і не дастукаешся, дык ніхто нічога там і ня ведаў. Ізноў-жа, як можна што-нібудзь казаць аб нябожчыку ў гумарыстычнай часопісі?!

— Аб'яднаньне! аб'яднаньне! — штораз, то болей заглушала ўсе іншыя галасы маленечкая лікам «Беларуская Хатка»:

— Памятаеце, як хвалі поэта Сваяка?! Нашыя лёзунгі перамагаюць: хоць і рэдка, толькі ў хаўтурныя мамэнты, а ўсё-ж такі бывае ў беларусаў:

Аб'яднаньне!..

Тут я, здаецца, прачхнуўся і гэтым сапсаваў усе сваё:

Хаўтуры...

**Звончык.**

# Мудрая гаспадарка.




Цяпер вывозяць ад нас хлеб за граніцу, а вясной будуць нам прадаваць загранічную муку ўтрая даражэй.

## Як я трапіў у камуністыя

(*з натуры*).

То дальбо', браткі, ня мàна
— Праўды факт ёсьць чысты —
Як праз ласку паліцмана,
Праз вядомага, я, пана —
Папаў у камуністы.

Добра помню на Ільлю
(Чорт падбіў грашыці)
Ўзяў я косу дый смалю
За раку касіці.

Вось праз рэчку перабрыў
(Мост вадой парвала),
Выняў люльку закурыў
Дый кашу памалу.

Бачу—лезе паліцман
— Трэба-ж зьнекуль ўзяцца —
Дый пытае у мяне,
Як тут перабрацца.

Зьняў я шапку ў той-жа раз,
Да рэчы прызнацца:
Паліцманаў тых у нас,
Як агню, баяцца.

Шапку зьняў я дый кажу,
Гэтак сабе ціха
І, здаецца, бы дрыжу —
Што гэта за ліха!

— Порткі скінь,—кажу,—панок,
Дый брыдзі паволі,
Тут вады, мой галубок,
Па трыбух ня болей!

Здэцца мовіў, як умеў —
Чым не спадабаўся?
Паліцман мой аж зьбялеў,
Гэтак узлаваўся.

Лаяў, бэсьціў ён мяне,
Як такі папала,
А нарэшце, браце, — не!
Гэтага йшчэ мала!

Азірнуцца на'т ня ўсьпеў,
Каб ты праваліўся,
Як на карак пан мне сеў,
Бы мядзьведзь зваліўся.

Дый крычыць: цяпер нясі
На той бераг, „хаме“,
Нагой штырхае ў бакі,
Лаецца па маме.

Пру я ў ваду, як быка
(Што-ж пачнеш рабіці),
Навучылі мужыка,
Як паноў вазіці.

Вось па пояс і вышэй
Ўсё вада займае,
Мой панок аж да вушэй
Ногі задзірае.

Ўжо сярэдзіны дапяў
Ды, сабраўшысь з духам,
Аглянуўся я й самлеў:
Рэвальвэр пад вухам!

Гэткай штукі, далібог,
Я ня бачыў з роду:
Сеў ад страху—а панок
Ды бултых у воду!

Меў, браткі мае, тагды
Я клапот даволі,
Пскі пана ды з вады
Выцягнуці здолеў.

Вось панок мой ачуняў
(Ці-ж ня гад нячысты),
Лемент, шум ізноў падняў,
Лае: «камуністы!»

Я це', кажа, у турму
І кудысь яшчэ там,
Так гвалтуе, хоць, дальбог,
Разьвітайся з сьветам.

Эх, ты доля галіты —
Лёс наш пяруністы:
Быў як анел той сьвяты —
Трапіў ў камуністы!

Камуністы там ці не,
А сказаць вось мушу:
Годзі вам трасьці мяне,
Быццам тую грушу;

Годзі вам па мужыку
Езьдзіць так, глуміцца.
Злазьце лепш, панкі, з карку,
Каб не утапіцца.

**Міхась Васілёк.**

# СЬВЕЖЫЯ НАВІНЫ.

✕ Кажуць, што п. п. Obst, Cat, Bor і Ко маюць сарваць з Англіяй дыплёматычныя зносіны і абвясьціць ёй вайну нібы за тое, што ангельскі пасол Шэфэрт, быўшы ў Вільні, адведаў беларусаў, а да іх, „гаспадароў краю“, зусім не заходзіў.

✕ Кажуць, што з прычыны частых беларускіх дэмонстрацыяў, якія ў апошнім часе адбываліся ў Вільні, гарнізон віленскае паліцыі мае быць павялічаны *пазнанякамі, крулевякамі і галілеюшамі.*

✕ Кажуць, што згодна з распараджэньнем міністра асьветы, каб школьная адміністрацыя навучылася „мясцовае“ мовы, — школьны куратар у Вільні наняў сабе служанку-беларуску, ў якой бярэ лекцыі беларускай мовы.

✕ Кажуць, што пасьля сьвятаў адбудзецца вясельле Паўлюкевіча з „Беларускай Хаткай“. Усе шлюбныя выдаткі ўрад бярэ на сябе.

✕ Кажуць, што беларускі пісьменьнік Краў-Мак піша новую повесьць „На дне“. Галоўнымі героямі будуць сьвятлейшы беларускі князь Байкопіс, Цюфяк-Кабылкін і інш. „быўшыя людзі“.

✕ Кажуць, што ад новага году газэта „Сялянская Ніва“, кожнаму, хто захоча яе чытаць, будзе даваць вялікія прэміі, бо ня гледзячы на абніжэньне цаны „С. Н.“ да 10 грошай, ніхто, аднак, ня хоча яе выпісваць і чытаць.

✕ Кажуць, што віленскія беларускія газэты маняцца пабудаваць для „быўшых вялікіх людзей“, эс-эраў і інш. прытулак-начлежку, каб пазбавіцца іх візытаў і перашкодаў у працы.

✕ Кажуць, што ў касьцеле сьв. Міколы ў Вільні ў хуткім часе адбудзецца беларускае жалобнае набажэнства з прычыны выхаду ў сьвет газэты „Narodny Zwon“.

### НАШЫЯ ДЗЕЦІ.

Матка вучыць сына:
— Янчака, май такую прывычку, не адкладаць ніколі таго, што яшчэ можаш зрабіць сягоньня.

— Добра, мамачка, дай мне тыя пернічкі, што засталіся, я яшчэ сёньня іх зьем.

*Я.*



Літоўскі дзеяч д-р *Л. Б—ч* з прычыны полемікі ў газэтах „Biełaruѕk. Kryniса“ і „Наша Справа“:

— І не абрыдне ім лаяцца і грызьціся паміж сабой, а ўсё праз тое, што нехта глупства пальнуў на маім юбілеі.

## „Рэдукцыя“

(*Праўдзівае здарэньне*).

Шэф канцэлярыі да свайго сваяка:

— Пачакай, Яне, пакуль што, ў нас нікога на службу ня прыймаюць. Вельмі строга... Вось хутка, здаецца, будзе назначана спэцыяльная камісія дзеля правядзеньня *рэдукцыі* — тагды я ня толькі цябе, а нават Маню, а можа і Зосю ўстрою.

*А.*

### ПРАЎДА.

— Якая розьніца паміж рабочым і вярблюдом?

— Што ты здурнеў, ці што, як-жа гэта можна раўняць рабочага да вярблюда?

— Я не раўняю, а розьніца ёсьць паміж імі зусім невялікая, бо вярблюд можа некалькі дзён вытрымаць без вады, а рабочы без яды. *М.*

### ПРОСЬБА.

Жабрак, зайшоўшы ў хату:

— Міласэрны пане, надарэце беднага хоць якой драбніцай, нават старымі штанамі маглі-б мне не адну сьлязу асушыць.

*М.*

А. Ш.

* *

(*Адрывак з украінскага*).

... Вось дзіўлюся я, што Амэрыка пазыку для Польшчы ўсё адкладвае і адкладвае.

Далі-б хоць раз, а то не! Ня хочуць.

— Які застаў (залог)? — пытаюцца, — хто паручыцца, што аддасьце?... Мы ўжо, кажуць, такіх бачылі!

Аж сумна робіцца ў Варшаве ад тых гутарак.

А я каб быў на месцы Форда, пазычку адразу сыпнуў-бы...

— Колькі Вам?...

— Столькі а столькі...

— Маеце—бярэце!

Бо да Пілсудскага мяне ўжо людзі пераканалі. Ён усё што пазычыць—аддае. Сумленна, справядліва, не такі, як другія.

Было, ўзяў Жэлігоўскі Віленшчыну,—не аддаў.

Было, ўзялі польскія паўстанцы з Кракава, Львова і Варшавы Горны Шлёнск,—не аддалі.

Было, ўзяў Галер з француз замі Усходн. Галічыну...

А Пілсудскі?

Ён іначай паступае. Ганарова! Раз ўзяў Кіеў—і ўраз-жа аддаў.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Таму я і пазыку пад застаў Пілсудскага ўраз даў-бы!

Тым больш, што прычыны сур'ёзныя.

Ратаваць Эўропу трэба—гэта ня жарт.

А калі?

— На маю думку да Мая прыдзецца пачакаць...

„Зиз“.

### ПАБОЖНАЯ МАЛІТВА.

Паміраe Сымонава жонка:—Божа. Божа!—кажа Сымон—я сваю Ганну вельмі любіў, але ты, Божа, яшчэ болей яе любіш, вазьмі яе да сябе...

*

### ЧАМУ ЯНА НЯ ВЫХОДЗЕ ЗАМУЖ.

— Калі тваё вясельле, Галенька?

— Ніколі.

— Чаму гэта так?

— Бо я не хачу ісьці за Сьцяпана, калі ён п'яны, а ён мяне ня хоча, калі выцьверазее.

*

### ЧЫМ КУРКА ПРАВІНІЛАСЯ.

— Заўтра, мой даражэнькі, пятыя ўгодкі нашага шлюбу. Можа трэба зарэзаць курку?

— А чым-жа курка правінілася, што мы пабраліся? **«Зиз».**



## Адзін у плот, другі у гарод.

**Паліцыянт:** У вас „гурткі“ ёсць?

**Селянін:** А во поўная міска,—сёлета гуркі добра ўрадзілі.

### ПАЛІТЫКА.

— Вось мудрае слова гэта—палітыка, нават трудна зразумець.

— Палітыка гэта значыць,—калі ты прыпадкам што-колечы ўкраўбы, дык цябе на год-два да крыміналу ўсадзяць, а як вялікі ўрадовец украдзець мільён, дык тагды кажуць гэта—палітык.

*Я. У.*

### У ГІМНАЗІІ.

*Настаўнік:* Пане дырэктар! у маёй клясе карта Эўропы падзёрлася, Польшча таксама ўжо дзярэцца.

*Дырэктар:* Дык вышлеце яе да Лігі Народаў, можа залатае.

## НАША ПОШТА.

**А. Дзіўны** — З Вас яшчэ вельмі слабы поэт, ды і пішаце няпрыстойныя рэчы.

**Атрута** — У Вашых „жартах“ няма жартаў.

**Тамуль** — Ваш верш слабейшы нават за польскае піва і ў „Маланку“ не надаецца.

**Т. Гурны** — Вашы рысункі ніколі не пабачаць „Маланкі“, бо на вечны час спачылі ў рэдакцыйным кошыку.

**С. Сьлезьніку.** Карыкатуру і верш „Адчынеце вастрожныя дзьверы“ зьмясьціць ня можам, бо баімося, што гэтыя дзьверы не адчыняцца, але зачыняцца за нашым рэдактарам.

# Як мае выглядаць на практыцы новы прэсавы дэкрэт.



Для адказнага рэдактара.



Для фактычнага рэдактара.



Для аўтора.



## Гумар бальшавіцкі.

**Біблія ў рысунках.**

Хутчэй вярблюд прайдзе праз вуха іголкі, чым Ліга Народаў схіліць дзяржаўны імпэрыялізм да абязброеньня.

*„Известия“.*



## Гумар голяндзкі.

Хоць у руках галубок спакою, але тыя, што ўгарэ, лепшыя.




## Гумар італьянскі.

Па ўсім сьвеце спорт пануе Мусоліні ў вус ня дуе: хто-ж дайдзе хутчэй да „славы“, ці конь з Рыму ці з Варшавы, ці той, што з-заду там пляцецца, канём гішпанскім ён завецца?...

**Fiorencja.**



Рэдактар-выдавец **М. Луцэвіч.** Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.